Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# Сялянская праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 грошы.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 25. Вільня, Серада, 26-га лістапада 1924 г. Год I.

## Цэнтральная Беларус. Школьная Рада

гэтым заклікае ўсіх сяброў Т-ва Беларускай Школы ў Вільні на агульны сход 30-га гэтага лістапада а 2-ой гадзіне вечара ў памешканьні Ц.Б.Ш. Рады (Вільня, Віленская 12, пам. 6). Калі на азначаны час ня прыбудзе ўстаноўленага ліку сяброў, агульны сход адбудзецца 14-га сьнежня гэтага ж году а тэй самай гадз. ў памешканьні Школьнай Рады, бяз увагі на лік прыбыўшых сяброў. Парадак спраў: 1) Справаздача за мінуўшы год, 2) Давыбары сяброў Школьнай Рады і 3) Бягучыя справы.

*Цэнтр. Беларуская Школьная Рада.*

## Польшча і парлямант.

Усё сьмялей і сьмялей польская рэакцыя і нацыяналізм вядуць свой паход проці парляманцкага ўпраўленьня ў Польшчы і выказываюць думку, што Польшчы патрэбен *кароль*. І пад той час, як больш памяркоўныя прадстаўнікі польскае буржуазіі гатовы пагадзіцца з істнаваньнем такога „няшчасьця“, як Сойм і Сэнат, толькі вышуківаюць спосабы дзеля *выдаленьня стуль дэпутатаў нацыянальных меншасьцяў* („Kur. Warsz.“), эндэкі зусім шчыра і адкрыта кажуць, што дзеля ратаваньня Польшчы з таго катастрафічнага палажэньня, у якім яна апынулася, патрэбна *манархія* („Słowo Polskie“, „Gaz. Warsz.“).

Польская лявіца, ведама, стаіць за парляманцкае ўпраўленьне Польшчай, але і яна, прыняўшы эндэцкі прынцып аб тым, што *адзіным запраўдным „гаспадаром“ Польшчы можа быць толькі польскі народ — бяз „меншасьцяў“*, сама-ж сваей дзеяльнасьцяй падгатаўляе грунт дзеля зьдзейсьненьня эндэцкага ідэалу. Ізноў-жа крайняе левае крыло — польскія камуністы — прынцыпова адкідаюць парлямантарызм, дабіваючыся замены яго ўладай *рад* („*саветаў*“).

Ясна, што польскі парлямантарызм перажывае *вострыя крызіс*, а падстава яго — непаўнімае жаданьне польскага грамадзянства *пагодзіць два непрымірымыя прынцыпы: усенародных выбараў у парляманцкія ўстановы з абмежаваньнем гэтага права ў адносінах да трацінны народу — „непольскага пахождзення“*. І вось польскія рэакцыйна-нацыяналістычныя партыі спадзяюцца, што „прымірыць непрымірымае“ здолее толькі... кароль.

„Słowo Polskie“, прыкрываючыся „фігавым лістком“, засьцерагаецца, што ўлада караля павінна быць абмяжована парлямантам. Але-ж у С. Х. С. (у Сэрбіі), гдзе нацыянальны склад насяленьня вельмі падобны да польскага, ці гдзе істнуе каралеўская ўлада, — сэрбскія нацыяналісты ніяк ня здолелі праламаць сваей харвацкай меншасьці, і апошні гвалт караля над урадам Давідовіча толькі вынясе нацыянальную барацьбу з сьценаў парляманту — *на вуліцу*! І больш шчырым за „Sł. Pol.“ зьяўляецца лейб-орган эндэцыі „Gaz. Warsz.“, на страніцах якога Ал. Сьвентахоўскі адкрыта вядзе агітацыю *проці ўсякае формы народапраўства і за абсалютную манархію — з дыктатарскай уладай караля.*

Ці ўдаецца польскім манархістам пажаць плады многалетняе працы над узгадаваньнем грамадзянства ў духу культу каралеўскае ўлады, распачатай з благаслаўленьня п. Пілсудзкага? Гэта, ведама, пытаньне, на якое пакуль-што цяжка даць адказ. Аднак, гледзячы далей уперад, трэба сказаць, што мо' запраўды ў Польшчы патрэбен кароль, толькі зусім ня з тэй мэтай, з якой хоча ўзьвясьці яго на трон эндэцыя.

Банкруцтва польскага парлямантарызму выклікае агульнае нездаваленьне ў народных масах. Але Сойм — гэта-ж „выяўленьне волі“ тых самых масаў! І вось, разумеючы гэта, масы ня могуць, аднак, знайсьці выхаду з утварыўшагася палажэньня: бароцца з парлямантам яны ня могуць, бо самі яго выбіралі. Дык уся энэргія да змаганьня за нешта лепшае перапаліваецца, не выбухаючы, з прычыны *адсутнасьці мэты*!

Каралеўская ўлада, як зусім відочная, яркая прадстаўніца буржуазнага сьвету, можа даць і відочную мэту, проці якое будуць выступаць масы. Польскі манарх прыцягне да сябе ўсю ненавісьць і ўсю злосьць галоднага, вечна папіханага і зьняважанага „рэспубліканскімі“ валадарамі народу, і дасьць гэтаму народу нейкую ясную, лёгка зразумелую *ідэю* барацьбы.

Дык хай сабе прыходзе кароль, — яго ўлада ўсё роўна будзе нядоўгая. А вынікі такога экспэрымэнту мо' ўрэшце ачысьцяць атмасфэру, якую крызіс польскага парлямантарызму гэтак цяпер згусьціў.

Добра і гэта. А што будзе далей, — пакажа будучына...

## Вярніце Беларусі культурны скарб!

За некалькі гадоў да вайны ў Вільні была распачата праца, каб дабіцца ў сталіцы нашае Бацькаўшчыны адкрыцьця ўнівэрсытэту.

Ведама, вельмі чыннае ўчасьце ў гэтай працы прыняло і беларускае грамадзянства, цэнтрам якога была рэдакцыя „Нашае Нівы“. Апошняя, ведаючы, што нязвычайна цэнныя для гісторыі Беларусі шчорсаўскі архіў і бібліятэка вывезены з Шчорсаў уласьнікам іх у Кіеў, пастанавіла зьвярнуцца да гр. Хрэптовіча-Бутенёва з прапазіцыяй, каб ён — у прыпадку адкрыцьця ўнівэрсытэту ў Беларусі — вярнуў гэты культурны скарб роднаму краю.

Вось-жа гр. Хрэптовіч-Бутенев заявіў на гэта рэдактару „Нашае Нівы“ А. Уласаву, што ён ня толькі зусім згаджаецца з гэтым, але і забясьпечыў зварот архіву і бібліятэкі Беларусі тым, што злажыў іх у Кіеўскім унівэрсытэце толькі часова, **як дэпазыт, — а імення да часу адкрыцьця ўнівэрсытэту ў Беларусі, якому архіў і бібліятэка павінны быць аддадзены.** Паводле яго слоў, у тым часе ўся зборка ўшчэ ляжала ў Кіеве ў скрынях, не распакавана. Вывез яе з Шчорсаў праф. М. Даўнар-Запольскі, які і можа даць ведамасьці аб ёй.

Цяпер, калі ў Менску істнуе Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт і ёсьць даволі навуковых сіл дзеля выкарыстаньня багатага шчорсаўскага архіву і бібліятэкі, **пара менскім беларускім дзеячам заняцца справай звароту Бацькаўшчыне гэтага нашага культурнага скарбу.**

**А. Л.**

## Арганізуйма хаты-чытальні!

Падыходзіць зіма з доўгімі вечарамі. Ня так яна страшна сваімі марозамі, як бяздзельлем. 18 гадзін ночы — страшна і падумаць! Каб тыдзень ня спаў, то ўсё роўна гэтулькі ня высьпіш. Дый з лішняга сну няма толку — адно разбаліцца галава. Трэба, браткі, узяцца за работу, тагды і зіма не дакучыць, і многа здабудзем карысьці.

Вайна прабудзіла ад сну шмат народаў, усе яны шчыра ўзяліся за будоўлю свайго жыцьця. Няўжо-ж мы, беларусы, астанемся нейкімі папіхачамі?

Не, мне здаецца, нікому не да спадобы, калі з яго сьмяюцца. А мы адсталі далёка, далёка ад другіх народаў. Нас на кожным кроку абманываюць. Мы ня можам даць адпору ні крамніку-спэкулянту, ні першаму-лепшаму пісарчуку. Усюды гнемся ў тры пагібелі. Часта наш вясковец, асабліва ў горадзе, напамінаець раба.

Грэх сказаць, што мы гультаі, ці што ў нас мала розуму; але ўся бяда ў тым, што дзетак нашых прымушаюць працаваць на чужым загоні. Гэтакага працавітага народу, як беларусы, ня знойдзеш. Усе цяжэйшыя работы і ў Эўропе і ў Амэрыцы вышлі з нашых рук. Усюды параскіданы костачкі беларускія. Праўдзіва сказаў паэта: „Для другіх ты рыеш золата, сам-жа жыў сухою крошкаю“.

Пра цяперашняе нашае жыцьцё і гаварыць няма чаго: поле нашае перастала радзіць збожжа, на балоце не расьце трава, а таргоўля ўся ў руках спэкулянтаў?

Дык давайце ў гэтым прасторы і папрацуем ў зімку. Арганізуймася ў вясковыя саюзы. Знойдзем у кожнай вёсцы хату і жыва возьмемся за дзела. Толькі гэты шлях зможа вывесьці нас на шырокую паляну.

Праграму работы я прапаную гэтакую:

1) Гаспадарка:

Праца ў полі, агародзе, садзе, балоце і пасецы.

2) Каапэрацыя:

а) Каапэрацыя торговая,

б) Каапэрацыя гаспадарчая.

3) Рамясло (шаўцоўства, сталярка і іншыя).

4) Культурная праца.

Браткі, праўда, гэта работа надта цяжкая; цяжкая не ад таго, што ёсьць шмат работы, а ад таго, што нашы культурныя работнікі ці з сякерай, ці з пілою, ці з мятлою ў руках павінны зарабляць сабе кусок хлеба. З усім інакш было-б, каб яны ўзяліся за сваю працу, але ў гэтым ня іх віна. Ня гледзячы ні на вошта, павінны ўсе, хто хоча паправіць сваё жыцьцё, узяцца за работу.

Перш-на-перш складзём бібліятэкі і знойдзем хаткі. Няхай кожны ў свабодны час зойдзе туды.

Першая просьба да нашых паслоў і дзеячоў папрасіць на гэта „благаслаўленьня“ зьверху, а другая — да Беларускае Цэнтральнае Школьнае Рады, каб пакіравала працай і памагла набыць кніжкі.

**Вясковец.**

*В. Кракотка.*

Як ведама, тое, што называла „незалежнасьцяй“ Англія, зусім не згаджалася з тым, што пад гэтым словам разумелі ягіпецкія незалежнікі, на чале з прэм‘ерам Заглулам-пашой. Мы толькі што—у аглядзе новай палітыкі Англійскага ўраду—прадбачылі, што выкліча гэтая палітыка „падняцьця прэсьціжу“ — у пачуўшых волю да волі калёніях Англіі. Чым скончыцца ягіпецкая гісторыя, пакуль-што ня відаць, але, што гэта—пачатак вялікіх падзей, дык гэта пэўна... Нават—калі цяпер канфлікт скончыцца „перамогай“ Англіі.

**Забойцы генарала Лі-Стэпа знойдзены.**

З Лёндану наказуюць, што арыштаваныя па падазрэньню ў забойстве англійскага генарала асобы аказаны шофэрам аўтамабілю, на якім уцяклі замахоўцы.

# Дыпляматычны скандал у Францыі.

Яшчэ не пасьпеў заціхнуць скандал з сэнсацыйнымі рэвэляцыямі былога пасла Францыі ў Петраградзе п. Люі, як нарабіў клапоту сучаснаму францускаму ўраду **сучасны** францускі пасол у Маскве п. Эрбэт...

У аднэй з швайцарскіх газэт зьявілася 5/XI размова гэтага пасла з журналістам, у якой новы пасол, паміж іншым, выразіўся **аб магчымасьці пераглядy ўсходніх (з Польшчай!) граніцаў Нямеччыны!..**

Можна зразумець, якое ўражаньне зрабіла гэтая „афіцыяльная размова“ („інтэрв‘ю“—„wywiad“) францускага пасла—ды яшчэ і СССР!—на польскі ўрад і польскае грамадзянства!

Але і тут спрытны п. Скшыньскі, здаецца, захаваў супакой, як і пасьля **аналягічнай** „абмоўкі“ Мак-Дональда.

Затое ўрадавая газэта падала афіцыяльны камунікат, які сьцьвярджае, што гэта—ня „вывяд“, але—так сабе „прыватная размова“, якую меў з швайцарскім журналістам **цяперашні** пасол п. Эрбэт, але **тады** — у мамэнт размовы—ён... ня быў яшчэ назначаны паслом!... А лоўкі карэспандэнт выкарыстаў сэнсацыйную заяву п. Эрбэта—**пасьля назначэньня!..** Камунікат дадае яшчэ, што карэспандэнт **ня точна** перадаў думку п. Эрбэта, і што яна... у кожным выпадку супярэчна з паглядам францускага ўраду...

Цікавы камунікат,—бо-ж ён—так, ці гэтак—сьцьвярджае, 1) што новы пасол Францыі ў Маскве „прыватна“ перакананы ў **магчымасьці** перагляду польска-нямецкай граніцы; 2) што яго „прыватныя“ пагляды розьняцца ад яго афіцыяльных паглядаў і 3) што „перакананьні“ і „пагляды“ таго пасла, які будзе прадстаўляць і бараніць у СССР пагляды ўраду Францыі, „стаяць у супярэчнасьці з паглядамі гэтага ўраду“...

Трэба дадаць, што французы—вельмі, вельмі добрыя лёгікі, амаль не найлепшыя з усіх народаў... І калі прадстаўнік іх „палітычнай лёгікі“ гэтак наблутаў, дык вінавата ў тым можа нейкая вышэйшая „лёгіка гісторыі“, якую Францыя зусім страціла пасьля вайны...

У кожным разе п. мін. Скшыньскі павінен быць зусім здаволены—таксама, як і ў Жэневе.

# Аб чым пішуць.

**Самабічаваньне.**

Эндэцкія публіцысты заўсёды бываюць вельмі чулыя, калі „меншасьці“ робяць тыя ці іншыя закіды палякам. Але прычынай абразы зьяўляецца зусім *ня зьмест* закідаў, а тое, што іх асьмеліваюцца рабіць *„інародцы“*. Прывілеі крытыкаваць польскае жыцьцё эндэкі прысвоілі толькі сабе.

Як прыклад такога самабічаваньня, можа служыць стацьця колішняга паступоўца, а цяпер эндэцкага парабка, Аляксандра Сьвентоховскага, надрукаваная ў нядзельным нумары „Gaz. Warsz.“. Паміж іншым, чытаем тамака гэткія словы:

> Новую Польшчу апанавалі перш за ўсё грабежцы, якіх яна стараецца вынішчыць, ды яны ўсё яшчэ зьяўляюцца чыньнікамі яе жыцьця. Апавяданьні газэт — гэта дасюль сачэньне і выяўленьне вялізарнай, абымаючай усенькі край сеці надужыцьцяў. Кожын нумар газэты падае нам весткі, што тут выкрылі зладзеяў у ўрадзе апрацізацыі, там—у лясной гаспадарцы, ў іншым месцы—у вайсковых ці чыгункавых даставах, у будоўлях і прамысловых прадпрыемствах ураду,—усюды, усюды без выключэньняў, дзе толькі ёсьць магчымасьць бяскарнага рабунку. Характэрнай адзнакай гэтага зьяўляецца тое, што рабуюць бадай выключна дзяржаўную маемасьць. Калі лес прадстаўляе ўласнасьць дзяржавы, дык абшарныя лесасекі хутка счэзнуць, а даход з іх не пакрые нават коштаў адміністрацыі. У адным з вялікшых лясьніцтваў, поўных багатае зьвярыны, за пару перастралялі ўсе казулі, усіх дзікоў, аленяў, ня кажучы ўжо аб зайцох, бітых тысячамі ня толькі адміністратарамі, але й грамадамі іх сваякоў, прыяцеляў і знаёмых. Калі нешта будуе міністэрства, дык найчасьцей расчыняе бяздонную прорву, у якую кідае вялізарныя сумы, а яна ўсё не запаўняецца. Вось-жа гэтыя зладзеі дзяржаўнага скарбу галоўную запаведзь свайго жыцьця і дзеяльнасьці высказалі адным словам: „красьці“. Іх яшчэ гэтак многа, што дзеля заграніцы на нашу ганьбу выглядае так, якбыццам гэтае слова было клічам усяго народу. Немцы, дамагаючыся аддачы ім Сьлёнску, апраўдываюць сваё дамаганьне тым, што палякі вядуць тамака рабунковую гаспадарку, ды што прадпрыемствы, якія ў нямецкіх руках давалі вялізарныя даходы, у нашых прыносяць вялізарныя страты. Адмова заграгранічных капіталістаў даць нам пазыку апіраецца галаўным чынам на тым іх перакананьні, што яна ў значнай меры будзе раскрадзена. Выпісаны ў Польшчу дзеля дасьледаў над нашай скарбовай гаспадаркай англічанін Юнг заявіў, што мы расходуем у ёй зашмат на 60%. Інакш кажучы, 60% дзяржаўных выдаткаў тоне ў кішанёх....

Да гэтай філіпкі запраўды трудна нешта дадаць!

# ХРОНІКА.

**Тыя, што бароняць нас ад бандытаў.** Віленскія газэты падаюць вельмі цікавую гісторыю хабарніцтва, героямі якой зьяўляюцца некалькі вышэйшых „чыноў“ віленскай крымінальнай паліцыі — з самым заступнікам начальніка п. Заборовскім на чале.

Да гэтага пана камісара Заборовскага зьявіўся нейкі жыдок Альпэровіч і заявіў, што да Вільні едуць з СССР багатыя жыды,—дык, значыць, можна добра зарабіць.

Тут-жа быў апрацаваны плян дзейнасьці; у кампанію былі запрошаны і п. п. Кедрыньскі і Шошын.

І вось, жыды гэныя запраўды прыехалі... на спатканьне дарагіх гасьцей, выехалі камандзіраваныя п. Забароўскім „чыны“ паліцыі, якія зрабілі равізію дакумэнтаў, знайшлі іх „не ўпарадку“, і багатыя жыды апынуліся на Лукішках.

У вастрог да іх зьявіўся чын крымінальнай паліцыі і запрапанаваў волю за 2.500 даляраў. Калі грошы былі дадзены паліцыянтам—гэтая сума паказалася малай, дык папрасілі яшчэ... брыліянтаў. Паскрабаліся жыды, але дзесьці ў абцасах знайшліся і брыльянты.

Але-ж нельга пакінуць абрабаваных жыдоў жывымі сьведкамі ў Вільні!.. Спрытныя бандыты разумелі добра небясьпеку... трэба неяк схаваць канцы ў ваду. Дык ці-ж гэта трудна? Абабраных жыдоў вывезьлі за латвійскую граніцу, як праваслаўнага архіерэя, і кінулі едзь куды хочаш!..

Жыды, апынуўшыся ў Рызе, зьвярнуліся да польскага консула, якому расказалі ўсю гісторыю.

Калі адзін з пацярпеўшых прыехаў у Вільню, з ім пайшлі на Дамініканскую № 3, і там ён паказаў усіх тых, што яго рабавалі.

Аказалася—усё вышэйшыя чыны паліцыі — тыя, што павінны шукаць зладзеяў і бандытаў, ды бараніць нас ад рабункаў.

**Арышты.** 18/X с. г. ў в. Голік, Косаўскага пав., арыштавалі Юстына Гардзейку—сэкратара сэкратарыяту Беларускага Пасольскага Клюбу. Прычына арышту невядома.

У Бярэсьце арыштавана „камуністычная ячэйка“ ў 10 асоб.

**Ад Беларускага Навуковага Т-ва.** Урад Таварыства шчыра дзякуе ахвярадаўцам, прыслаўшым у Музэй імені Івана Луцкевіча гэткія рэчы:

1) грам. Вітольду Славінскаму — за кніжку яго „Zielone jeziora pod Wilnem“, Wilno, 1924 г.

2) Сялянам в. Петрулевічы, Казлавецкае гміны, Слонімскага пав., за 6 старых манэт.

**Ахвяры на Беларускі Прытулак.** Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны ў працягу верасьня, кастрычніка і лістапада месяцаў г. г. атрымаў на карысьць прытулку для дзяцей ды інтэрната наступныя ахвяры: І. Грашыма: 12/IX. Ад невядомае асобы праз Дырэктара віл. бел. гімназіі п. Р. Астроўскага 600 зл. 16/IX. ад п. А. Сакаловай 5 зл., ад п. А. Уласава 3 зл., 17/IX. ад бацькаўскага К-ту Віл. Бел. Гімназіі 34 зл., ад п. Доўгага 259 зл. 3/X. Беларускага Пасольскага Клюбу 185 зл., ад пасла Баліна 20 зл. ад п. М. Васілеўскага 5 зл., ад п. Чэрвякова з Рэвэля (10 фр. фран.)=2 зл. 75 гр., 11/X. ад п. Доўгага 258 зл., 12/X. ад п. Бэркі 20 зл., 20/X. ад кс. А. Станкевіча 103 зл., 23/X. ад машыніста Віл. Дэпо п. Віргановіча 3 зл., 23/X. ад прыхажан Канст.-Елен. царквы ў Валожыне праз сьв. Даламанава 6 зл., 30/X. ад п. Падагеля 1 зл., ад п. Юстына Мурашкі 10 зл., 2/XI. ад сьв. Траецкага манастыра праз М. Аўгенію 6 зл. 30 гр., 4/XI. ад Беларус. Пасольс. Клюбу 235 зл., 8/XI. ад Т. Раманцэва праз Рэд. газ. „Сялянск. Праўда“ 2 зл., 9/XI. ад сьв. Траецкага манастыра праз М. Аўгенію 5 зл. 43 гр., 15/XI. ад сьв. Траецкага манастыра праз М. Аўгенію 8 зл. 96 гр., 17/XI. ад кс. А. Станкевіча 103 зл. 40 гр., а ўсяго—1.875 злотых 84 грош. II. Матар‘яламі: 6/XI. ад сьв. Паўла Анспа з Вілейкі матар‘ялу на бялізну 30 мэтраў, 6/XI. Ад архіяпіскапа Хвядоса палатна 40 арш., 8/XI. Друйскага благачыннага — палатна 8 арш. III. Вопраткаю і ботамі: ад Благачыннага з Друі, ды грамадс. Міхалевіча, Астроўскае, Банцлебэн, Быхавец, Падагеля, Савіцкага, Галяка, Сакаловай, Дубейкоўскіх ды невядомых — розных старых вопраткаў і ботаў усяго 155 штук-пар.

За ўсё вышэй пералічанае асобам, якія самі ахвяравалі, або паклапаціліся сабраць ахвяры ад сваіх знаёмых, Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны шле ад імя бедных дзяцей сваю шчырую падзяку. **Камітэт.**

Вільня, 23./XI. 1924 г.

**З літоўскага жыцьця.** Гэтымі днямі віленскае літоўскае грамадзянства памінала нацыянальнага дзеяча і выдатнага пісьменьніка Кудіркі, з прычыны 25-х угодкаў яго сьмерці. Быў наладжаны ўрачысты спэктакль, які папярэдзілі прамовы д-ра Алісэйкі і кс. Заёнчкоўскага.

**Archimandryta Filip—старшынёй кансысторыі ў Вільні.** З Варшаўскага Сіноду атрыманы, быццам, загад аб назначэньні archimandryta Filipa старшынёй віленскай праваслаўнай кансысторыі.

Дзеля таго, што загад, так сказаць, умоўны—у форме прапазіцыі мясцовай эпархіяльнай уладзе, апошняя быццам адказала, што кандыдатура ojca Filipa—неадпаведная.

**Палац біскупаў у Вільні.** Даўнейшы біскупскі палац на пляцу Напалеона (Мураўёва) ў Вільні, які лічыўся дагэтуль уласнасьцю прэзыдэнта Рэспублікі, перададзены апошнім міністэрству ўнутр. спраў, якое аддало яго віленскаму ваяводзе—пад яго кватэру і ваяводзкія ўстановы.

# „З праваслаўнага жыцьця“.

Пад гэткім загалоўкам прызнаны орган сучаснага віленскага „праваслаўнага жыцьця“—Dziennik Wileński—падае рад цікавых інфармацыяў.

## 1. Бюджэт на зьезьдзе „дэканаў“ (благачынных).

На зьезьдзе „дэканаў“ разглядаўся бюджэт на 1925 г., які, раўнуючы з бюджэтам 1924 г., узрос у 5 разоў!

Некаторыя з „dziekanów“ тлумачылі гэты ўзрост увядзеньнем польскае мовы ў сэмінарыі... („залатая“ мова!..).

Рэктар сэмінарыі, япіскап Антоні, заявіў, што ўвядзеньне польскай мовы, як выкладовай, — не яго віна, але віна папярэдняга рэктара, archimandryta Filipa.

Пасьля бурлівай дыскусіі зьезд пастанавіў, каб выдаткі на 1925 г. не перавышалі бюджэту 1924 г.

Зьезд перагледаў і справу сьвяткаваньня праваслаўных сьвятаў і пастанавіў,—каб ня было „саблазну“ і блутаніны, — сьвяткаваць усюды, **выключна, па стараму стылю.**

## 2. Спорка аб archim. Filipie.

Канцылярыя варшаўскага праваслаўнага мітрапаліта Дзяніса прыслала „на заключэньне“ віленскай праваслаўнай эпархіяльнай улады **прапазіцыю „Міністэрства Рэлігіяў** назначыць... archimandrytę Filipa (Morozowa) старшынёй („первоприсутствующим“) Віленскай Кансысторыі.

Як даведалася газэта п. Обста, віленская „курыя“ (папросту япіск. Хвядос) дала „заключэньне“, няпрыхільнае для arch. Filipa.

Можна толькі адзначыць, як сумленна апякуюцца сваім „сынком“ паны куратары Гонсёровскі і Сьвідэрскі.

Калі віленскія дырэктары польскіх гімназіяў адмовіліся, ня гледзячы на загад п. Куратара плаціць дарма arch. Filipowi грошы—„паводле этату“—за тыя лекцыі, якіх той не дае, тады віленскія і варшаўскія „куратары“ для беднага сіраты, манаха Filipa, выдумалі нешта яшчэ лепшае: зрабіць яго „першым“ у віленскай кансыстрыі,—на што, відаць, і павялічаны бюджэт яе ў 5 разоў: хай плацяць arch. Filipowi — **за ўвядзеньне польскай мовы** — ня **польскія** мястовыя гімназіі, а **беларускія** сялянскія прыходы (парахфіі))..

## 3. Нарада вышэйшага духавенства ў Горадні.

У Горадні толькі што адбылася нарада вышэйшых праваслаўных іерархаў Польшчы. Былі прадстаўнікі і Віленскай эпархіі.

На гэтай нарадзе, як даведаўся p. Obst, ішла гутарка аб тым, што мітр. Дзяніс вядзе палітыку на шкоду праваслаўнага насяленьня, але на карысьць польскага ўраду... што гэткая палітыка вядзе да разрыву з Маскоўскім Патрыархам. Быццам, „нарада манілася выпусьціць адозву з крытыкай дзейнасьці мітр. Дзяніса, але перашкодзіла адсутнасьць... яп. Пінскага Аляксандра“...

Наагул, аб гэтай „нарадзе“ мы пакуль што з чыстых крыніц ня чулі нічога.

***Ніколі не зьнішчажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!***

# Карэспандэнцыі.

## „Niech pani nie zwraca uwagi na takie głupstwa“...

(З *Слонімшчыны*).

Так сказаў пан Кожын, школьны інспэктар Слонімскага пав., вучыцельцы, каторую „працягнулі“ ў беларускай газэце, за штрафы на дзетак, за беларускую мову ў школе.

У гэтым годзе я пайшоў к яму з прыгаварам аб адкрыцьці беларускай школы, але гэты пан не зьвярнуў на гэта ўвагі і нават не захацеў са мною пагаварыць, не захацеў даведацца пра настрой жыхароў чатырох вёсак.

Гэныя настроі яму вядомы. На кожнай канфэрэнцыі ўчыцялёў на пытаньне, як быць, бо сяляне байкатуюць польскую школу,—ён паўтараець усё адны словы: „Nie zwracajcie na to uwagi i podawajcie mi śpisy takich rodziców!“

От і ўсё, чаго мы дабіліся, што далі нам языковыя ўставы! **Гаротнік.**

## І заплаціўшы плаці!

(З *Наваградзкага пав.*).

У нашай воласьці ёсьць нейкі панок, Дубоўскі, які за свой маёнтак ня „здужаў“ заплаціць падатку.

Гэны панок надумаўся зьвярнуцца да войта Любацкай воласьці, Наваградзкага павету, Шыкаловіча, і да пісара Яблонскага, які, хоць кульгавы, але хітры. А пасуліў ён войту і пісару даць сена на пакос 25 году за тое, каб яны разлажылі належны ад яго падатак на ўсю воласьць. Яны гэта і робяць. Дабаўляюць яшчэ на дзесяціну па 20 грошаў, што быццам трэба плаціць яшчэ на вэтэрынарныя справы.

Калі-ж мы зьвярнуліся да падатковага інспэктара ў Наваградку, дык той і кажа, што: „podatku na Subczańską gminę więcej niema żadnego“. Дык вот, як добра жыць нашай воласьці ад нашых блізкіх „прыяцеляў“ — войта і пісара! **Ур.**

## Пан псуе, а сялянін рапаруй.

(*З Наваградзкага пав.*).

25.VIII.24 г. нейкі пан Пятрушкевіч з маёнтку Асташына вёз паравую малатарню ў маёнтак Любач, Наваградзкага павету, і на дарозе Асташына — Любач зламаў мост сваею машынаю. Вось—думаюць людзі,—калі-ж гэты пан паправіць мост, бо ехаць няма як? Аж тут прышлося папраўляць мост ня пану Пятрушкевічу, а сялянам, дый яшчэ прышлося ехаць за 30 вёрст за дрэвам, бо ў пана коні „паздыхалі“, а ў мужыкоў коні без работы! Мала таго, што езьдзілі па разу: давай па другім, а калі хто не паехаў, дык штрафуюць!

**І. Кадр—ч**

## Спагон падаткаў.

(*З Наваградчыны*).

31 кастрычніка ў Новую-Вёску, Гарадзейскае гміны, прыехаў гмінны сэкратар—Даўнар-Запольскі. Гэнага ўрадоўца сяляне Новае-Вёскі знаюць лішне добра, бо месяц назад ён забіраў у іх за страхоўку плугі, бароны, адзежу і г. д. Помняць добра, як ён абабраў жыхара таеж вёскі Янку Касьцюкевіча, як забіраў гуску ў Антося Сягая, пагражаючы ім рэвальвэрам. Сёньня ён прыехаў да солтыса Язэпа Гудка, і ўсе сяляне зацікавіліся прыездам гэнага госьця. Палавіна сялян гэтае вёскі не заплаціла падатку за дарогі, дык усюды сталі гутарыць: „Зараз будуць браць“. Але гэтую справу Даўнар-Запольскі адлажыў на другі раз, а сёньня прыехаў асабіста да солтыса, каб сьцягнуць з яго 38 злотых кары за тое, што як пан сэкратар зьбіраў страхоўку, дык солтыс адмовіўся яму памагаць.

Прачытаўшы солтысу „Nakaz karny“ Нясьвіжскага старосты на 25 злотаў, пан сэкратар заявіў: „што за тоё, што солтыс ня выплаціў кары ў паказаны час, дык я прыехаў сьцягнуць яе сам, а за свой праезд яшчэ далічваю 13 злотаў, што разам солтыс павінен заплаціць 38 злотаў.“ — „Słyszysz?“, запытаўся пан сэкратар.—„Чую“,—адказаў солтыс,—„але плаціць ня буду, бо ня маю чым, дый я нічога нікому не вінават“ — „Jeszcze sołtys wsi będzie rozmawiał z sekretarzem gminy? ja ciebie naucze, jak go szanować! „Jeszcze raz pytam; płacisz, czy nie?—„Няхай пан сэкратар пытаецца, як хоча, дык сёньня не заплачу, бо мне злотаў з неба ніхто не накідаў!“—Даўнар-Запольскі схапіўся са злосьці і пайшоў шукаць па будынках солтыса, каб што добрае ўзяць, але нічога не знашоў, бо солтыс нічога ня меў. Тагды пан сэкратар падскочыў да солтыса і стаў пытацца галосным крыкам:—„Gdzie masz krowę?“, — „На пашы“, адказаў солтыс...—„A gdzie to pastwisko? wraz pokazać“—„А хто яго ведае, дзе пастух пасе, хіба тры дні шукаць... Дый каровы я не аддам, бо яна ў мяне ўсяго адна“ — „Milcz!, a to jeszcze więcej będziesz ukarany“.. З гэтым пан сэкратар пабег к суседу солтыса, Янку Гудку, каб паказаў, дзе карова солтыса, але Янка Гудко быў якраз на полі і пакінуў дома 12 гадоў дзяўчынку Марысю, якая, угледзіўшы праз вакно, што, рассапаўшыся, ляціць нейкі пан, узяла дый замкнулася. Пан сэкратар стаў барабаніць у вакно з крыкам: „otwieraj“! Марыся са страху мусіла адчыніць і сустрэла на парозе сэкратара, які стаў пытацца, дзе карова солтыса? Дзяўчынка адказала: „нічога ня ведаю“ „Jak nie wiesz, psiakrew twoja! mów, jakiej maści krowa sołtysa!“ Дзяўчынка з плачу ледзьве вымавіла: „Чо-о-о-рная“. Пан сэкратар бачыць, што нічога не даб'ецца, выбег на вуліцу, дзе яго сустрэў солтыс, і стаў прасіць, каб зайшоў к яму ў хату. Пан сэкратар зайшоў да солтыса, а солтысава жонка, баючыся, каб не забралі пасьледняе каровы, абегала паўсяла і пазычыла 20 злот., якія аддалі Даўнару-Запольскаму, а астатак прасілі два дні пачакаць. Сэкратар згадзіўся на гэта з гэтакаю ўмоваю: „калі солтыс ня выплаціць да 3-га лістапада ўсяе кары, дык сэкратар на яго рахунак прыедзе зноў і забярэ карову.

**Алесь Сініца.**

## „Дабравольныя ахвяры“.

(*Гэленова. пад Маладэчнай*).

Дырэкцыя „Будкрэсы“, якая будуе тут казармы для войска, зрабіла гэткі „дабравольны“ збор на аэрапляны для Польшчы: работнікам проста зрабілі бяз іхняе згоды прымусовую адлічку ад іх і без таго мізэрнага заробку! Пры гэтым адлічалі, не паводле нейкае аднае для ўсіх нормы, а як зажадалася бухгальтару Кохановскаму: каму 3 злоты, а каму колькінаццаць грошаў. А як хто адважыўся заявіць пртаэст проці такога самавольнага гаспадараньня дырэкцыі ягонымі грашмі, дык таму пагражалі выгнаць са службы. І прыйшлося пагадзіцца з гэтым, бо-ж цяпер аб заработак вельмі трудна, ды йшчэ супраць зімы.

Адносіны да работнікаў пры будоўлі казармаў—страшэнна благія, жорсткія, плата — малая, дый тае ніколі ў свой час не дастанеш: то „няма грошы“, то проста „пачакайце!“ Бывае, што і дні прападаюць, бо іх ня ўпісываюць... Затое „Будкрэсы“ добра кішані напіхаюць!

**Вачавідзец.**

## З н а х а р ы.

(*Пачапоўская гм. Навагрзадзк. п.*).

За вайну ў нас зусім зьніклі знахары, старыя паўміралі, а новыя йшчэ не навучыліся, ці што? Але, замест іх, зьявіліся зусім інакшага сорту. Старыя знахары жылі, як усім ведама, гдзе—небудзь на канцы вёскі ў хатцы на „курынай ножцы“,—страшныя, лахматыя, абросшыя валасамі, а цяперашнія, дык гэта зусім ня тое: маладыя, „інтэлігэнтныя“ людзі, прыяждаюць няма ведама скуль, займаюць лепшую кватэру ў вёсцы, або ў фальварку і пачынаюць лячыць,—варажыць і пазнаваць, што было і што будзе. Дзеля гэтага яны нат' маюць „засьвячэньні“ ад павятовых старостаў, — што ім пазволена займацца хірамантыяй.

Так, адзін з гэтакіх „шэрахвостаў ў леташнім годзе прабыў нешта з месяц у маёнтку Азароўшчына—у паноў Сакалоўскіх і, абдурыўшы ня мала людзей, зьнік. У вёсцы йшчэ ёсьць ня мала такіх, што вераць у іх лекі і варажбу, а найбольш з жанок.

Зьявіўся да нас і цяпер нейкі франт — мабыць спад Варшавы—і адчыніў лякарню—знахарню ў вёсцы Кончавічах, ды ўжо слава яго, як знахара, расьце не па днёх, а па гадзінах.... бо ён усё ведае. Але гэтымі днямі яму трохі не пашэньціла. Лячыў у вёсцы Ціхінцы жонку Кастуся Тумашчыка, якая, як кажуць, хварэла на сухоты, і ўзяў за гэта 10 пудоў збожжа (бядак можа астатняе аддаў!), а жонка назаўтра... памерла!

Цікава адзначыць, што гэтыя знахары заўсёды ў надта добрых адносінах з паліцыяй. Так і цяперашні ўжо пасьпеў нат' паабедаць у каманданта пастарунку, а ў упраўляючага маёнткм Сваротва (які мае нешта супольнае з паліцыяй), як кужуць, дык ужо і два разы паабедаў.

Пытаньне: што гэта за людзі, і чаго ім трэба ад нашых бедных сялян?

Ці можа гэта ваўкі ў авечых скурах?

**А—рыч.**

# Культурнае жыцьцё у Радавай Беларусі.

## Памяці Сапунова.

15 кастрычніка г. г. адбылося паседжаньне Гісторыка-Архэолёгічнай сэкцыі Інбелкульту, ахвяраванае памяці А. П. Сапунова.

Быў заслуханы даклад праф. Ул. Ів. Пічэты—„А. П. Сапуноў і яго навуковая дзейнасьць“, у якім Ул. Ів. Пітэта зрабіў ацэнку навуковай дзейнасьці Аляксея Парфенавіча.

Разглядаючы яго навуковыя творы, Пічэта заўважвае, што дзейнасьць А. П. адзначаецца тым, што ў кожным з яго твораў вельмі многа фактаў з гістарычнага жыцьця Беларусі, аб якіх ніхто ня ведаў.

„Віцебская Старына“ А. П. Сапунова, ня гледзячы на сваю аднабокасьць у поглядах, да гэтых часоў зьяўляецца настольнай кнігай гісторыка Беларусі, асабліва-ж каштоўны тыя ўвагі А. П., дзе ён прыводзіць цытаты з архіўных дакумэнтаў, або ўказаньні на іх.

Ацэніваючы другую грунтоўную працу Сапунова „Рака Заходняя Дзьвіна“, у якой ён даў поўны гісторыка-географічна і эканамічны нарыс басэйну гэтай ракі, Пічэта адзначае, што гэта праца зьяўляецца надзвычайна важнай. Падобных да гэтае працы другіх няма. Ня гледзячы на яе некаторую ўстарэласьць, праца служыць падручнікам і географу, і гісторыку, і эканамісту.

Адзнаючы тыя цяжкія ўмовы для працы А. П. Сапунова, як цэнзура з вялікадзяржауным шавінізмам, адсутнасьць сродкаў для выданьня прац, Пічэта тлумачыць гэтым некаторую тэндэнцыйнасць твораў Сапунова.

— Каб Сапуноў пісаў свае творы—кажа Пічэта—так, як ён разумеў усе гістарычныя падзеі, дык спадзявацца на друк іх ня мог пры строгай цэнзуры 80-х гадоў XIX сталецьця.

Дзякуючы таму, прыходзіцца чытаць творы А. П. між радкоў і карыстацца тымі заўвагамі аўтара на дакумэнты, скарыстаныя для тэй ці іншай працы.

Гаворачы аб вартасьці перадсьмертнага твору А. П. „Гісторыя Віцебску“, Пічэта ўспамінае 90-я годы XIX сталецьця, з часу якіх А. П. пачаў зьбіраць у маскоўскіх архівах матар'ял для гэтае працы.

Ацэніваючы Сапунова, як навуковага дзеяча, Пічэта адзначае, што Сапуноў ніколі не паўтараў у сваіх творах чужых думак, прытрымоўваючыся прыказкі: „лепш сваё горшае, чым чужое лепшае“.

Сапуноў пракладваў на працягу сваёй дзейнасьці вехі для беларускай гісторыі, без якіх было-б немагчыма ісьці наперад.

У творах А. П. адчуваецца сьвежасьць матар'ялу, які будзіць навуковую думку дасьледчыка.

У асобе Сапунова Беларусь страціла ня толькі знатака краю, але і дасьледчыка, які стварыў эпоху ў гісторыяграфіі Беларусі.

Да Сапунова гісторыя Беларусі была—чысты аркуш паперы, ён адзін з першых пачаў яго запісываць.

Як Ключэўскі ў Маскоўшчыне, Антановіч на Украіне, так Сапуноў, побач з імі, зрабіў эпоху ў гісторыі Беларусі.

# Беларусы у Літве.

Беларуска-літоўскія адносіны ў Коўне прыймаюць дужа прыкры для згоднага сужыцьця абодвух братніх народаў кірунак.

Ня гледзячы на тое, што, паводле ўмовы паміж урадам Б. Н. Р. і ўрадам Літвы з 12 лістапада 1920 году, Літва прызнала экстэрыторыяльнасьць беларускае дыпляматычнае місіі ў Коўне і сяброў ураду Б. Н. Р.,—у апошнія часы стаўся рад выпадкаў нарушэньня гэтае экстэрыторыяльнасьці бесарускага прадстаўніцтва. Гэтак, паводле газэтных вестак, літоўская паліцыя ўвайшла ў памяшчэньне беларускае місіі і забрала кнігу выдачы пашпартоў, вінавацячы грам. Вальковіча, прадстаўніка Б. Н. Р., у незаконнай выдачы пашпартоў і быццам незаконнае карыстаньне імем прадстаўніка БНР., хаця грам. Вальковіч, паводле яго заявы, прыступіў да выпаўненьня сваіх абавязкаў на падставе фармальнае прапазіцыі з боку літоўскага міністэрства загранічных спраў, у сувязі з вышэй памянёнай беларуска-літоўскай умовай. Дзеячы ўраду Б. Н. Р. стаўляюць гэтае выступленьне літоўскае ўлады ў сувязь з кампаніяй былога старшыні гэтага ўраду, грам. Ластоўскага, які, пасьля сваей адстаўкі, ня толькі перастаў прызнаваць законным той самы ўрад, які ім-жа быў створаны, але і пачаў з ім барацьбу.



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік**. Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.